І Сінод Гродзенскай дыяцэзіі 2
Разважанні пра сталасць 4
Сакральная спадчына Панямоння 5
Разам у святасці 6

Гродна
№4 (510),
24 лютага 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# КАРАЛЕВІЧ, ЯКІ НЕ БАЯЎСЯ БЫЦЬ СВЯТЫМ

**4 сакавіка асаблівым чынам будзем узгадваць св. Казіміра ў 535-ую гадавіну яго смерці. Звярнуцца да постаці святога, які спалучаў рэлігійнае жыццё з палітычнай дзейнасцю, вызначаўся цнатлівасцю, чысцінёй і шляхетнасцю, быў шчырым прыхільнікам Эўхарыстыі і Найсвяцейшай Панны Марыі, нас прымушае той факт, што ён скончыў свой зямны шлях у замку ў Гродне і з'яўляецца адным з апекуноў Гродзенскай дыяцэзіі.**

● *праця г на с. 3*






**"Святасць з'яўляецца найпрыгажэйшым абліччам Касцёла". Папа Францішак**




**VII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 6, 27–38**

Езус сказаў сваім вучням: “Кажу вам, хто слухае: любіце ворагаў вашых, дабро рабіце тым, хто вас ненавідзіць. Бласлаўляйце тых, хто вас праклінае, маліцеся за тых, хто вас крыўдзіць. Таму, хто ўдарыў цябе па шчацэ, падстаў і другую; і таму, хто адбірае ў цябе плашч, не забараняй узяць і кашулю. Кожнаму, хто просіць у цябе, давай, і ад таго, хто ўзяў тваё, не дамагайся звароту. Рабіце людзям так, як хочаце, каб яны вам рабілі. Бо калі любіце тых, хто любіць вас, якая вам за гэта падзяка? Бо грэшнікі таксама любяць тых, хто іх любіць. І калі чыніце дабро тым, хто вам чыніць дабро, якая вам за тое падзяка? І грэшнікі робяць тое самае. І калі пазычаеце тым, ад каго спадзяецеся атрымаць назад, якая вам за тое падзяка? Бо і грэшнікі пазычаюць грэшнікам, каб атрымаць столькі ж. Але вы любіце ворагаў вашых, і чыніце дабро, і пазычайце, не чакаючы нічога ўзамен, і будзе ўзнагарода вашая вялікая, і будзеце сынамі Найвышэйшага, бо Ён ласкавы да няўдзячных і да злых. Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны. Не судзіце, і не будуць судзіць вас; не асуджайце, і не будуць асуджаць вас; прабачайце, і прабачаць вам. Давайце, і будзе дадзена вам: меру добрую, уцісную, утрэсеную і з верхам адсыплюць вам у падол ваш. Бо якою мераю мераеце, такой і вам будзе адмерана”.

## ЛЮБІЦЬ – ЗНАЧЫЦЬ ПРАБАЧАЦЬ

Езус прапануе сваю меру, якая не можа быць фальшывай, – любоў да кожнага чалавека, нават да непрыяцеля. Аднак для людзей гэта занадта складана, нават нерэальна, бо яны прывыклі на нянавісць адказваць нянавісцю, а ў адказ на ўдар наносіць два. Дэвізам сучаснага чалавека неадночы становіцца выражэнне “Вока за вока, зуб за зуб, галава за галаву”. А ён жа павінен кіравацца словамі Хрыста: “Любіце ворагаў вашых, дабро рабіце тым, хто вас ненавідзіць” (Лк 6, 27). Любіць – значыць, у першую чаргу, быць гатовым прабачаць. Аднак гэта зусім не азначае, што мы не павінны звяртаць увагу на зло і прычыненую крыўду, абараняцца ад злодзеяў і заган. Гэта ўказвае на неабходнасць адмовіцца ад жадання “аддзячыць”, а на ўдар адказваць любоўю.

Просім Пана, каб сваёй ласкай дапамагаў нам у авалоданні такім нялёгкім мастацтвам, якім з’яўляецца распаўсюджванне любові, дабра і прабачэння нават сярод непрыяцеляў.

**Ці здольны я шчыра прабачыць таму, хто мяне пакрыўдзіў?**

**Як выражаю сваю любоў да іншых людзей?**

**VIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 6, 39–45**

Езус расказаў сваім вучням такую прыпавесць: “Хіба можа сляпы вадзіць сляпога? Ці ж не зваляцца абодва ў яму? Вучань не большы за настаўніка. Але кожны добра падрыхтаваны стане такім, як яго настаўнік. Чаму ты бачыш шчэпку ў воку брата свайго, а бервяна ва ўласным воку не заўважаеш? Як ты можаш казаць брату свайму: «Дай, браце, я выцягну шчэпку з вока твайго», – калі сам не бачыш бервяна ў сваім воку? Крывадушнік, выцягні спачатку бервяно са свайго вока, і тады ўбачыш, як выцягнуць шчэпку з вока свайго брата. Няма добрага дрэва, якое б прыносіла дрэнны плод, ці дрэннага дрэва, якое б прыносіла добры плод. Бо кожнае дрэва пазнаецца па яго плодзе: не збіраюць з церня смоквы, а з куста ажын не збіраюць вінаграду. Добры чалавек выносіць з добрага скарбу сэрца дабро, а дрэнны чалавек з благога сэрца выносіць зло, бо пра тое, чым напоўнена сэрца, гавораць вусны яго”.

## АСУДЖАЦЬ СВАЕ ЎЧЫНКІ

Толькі Бог з’яўляецца справядлівым Суддзёй у любой сітуацыі. Аднак чалавек часам узурпуе ролю Усемагутнага, спрабуючы судзіць свет. Так з самага пачатку стварэння ён падлягае той самай спакусе: “быць як Бог”. Ахвотна мерае іншых сваёй мерай – фальшывай і недасканалай. Езус прыгадвае, што ніхто не мае права асуджаць бліжняга, а павінен клапаціцца пра сваю святасць. Як дрэва можна распазнаць па яго пладах, так будзе і з чалавекам: “Не збіраюць з церня смоквы, а з куста ажын не збіраюць вінаграду”. Трэба памятаць, што мы ў такой ступені з’яўляемся пераемнікамі Хрыста, наколькі адорваем любоўю іншых. Варта таксама ўсвядоміць сабе, што нашы добрыя і бескарыслівыя ўчынкі з’яўляюцца дэманстрацыяй прысутнасці Бога ў свеце. Магчыма, менавіта ад маіх паводзін належыць наварртанне асобы, што знаходзіцца побач.

**Што я кажу пра іншых?**

**Ці памятаю, што сваім жыццём сведчу пра Езуса?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Шукайма мудрасці жыцця

Вера, успрыймлівасць, сарамлівасць, чысціня для многіх сёння ўвогуле не маюць значэння. Сучасны чалавек, пастаянна падвержаны спакусам захапляльнага свету, нястомна вядзе барацьбу з унутраным жаданнем улады, бясспрэчнасцю ўласных поглядаў, пыхай, хцівасцю... Яго сумленне моцна здэфармавана, а часам нават абсалютна заглушана. Аднак нястомнае імкненне да задавальнення ўласных патрэб засланяе чалавеку сапраўдны вобраз Бога і аддаляе ад Яго! Ніводная асоба, незалежна ад полу, набытку і адукацыі, не застрахавана ад падзенняў і паражэнняў, якія часам можна распазнаць толькі праз многія гады. Сярод разнастайных крызісаў XXI стагоддзя найбольш вострым бачыцца крызіс розуму і мудрасці, без якіх, на жаль, усе чалавечыя намаганні аказваюцца дарэмнымі.

Цудоўны прыклад вернасці, стойкасці і супрацьстаяння сілам зла пакінуў нам св. каралевіч Казімір, заступнік Гродзенскай дыяцэзіі. Нягледзячы на малады ўзрост (адышоў у вечнасць, маючы 26 гадоў), яму ўдалося поўнасцю даверыцца Богу і даручыць сябе кіраўніцтву Святога Духа. Ён старанна шукаў мудрасці і любові Хрыста ў малітве, а напружаная праца над сабой прывяла да на дзіва моцнай волі і гераічнай цноты. Сваім жыццём св. Казімір даказаў, што ніякія багацці гэтага свету не здольны даць сапраўднага шчасця, якім з’яўляецца супольнасць з Богам.

Нягледзячы на тое, што змяняюцца мода, культура і традыцыі, пастава св. Казіміра надалей застаецца цудоўным узорам для моладзі, спакушаемай і ашукваемай разнастайнымі прапановамі сучаснай цывілізацыі. Яго мудрасць, чысціня маралі, справядлівасць, сумленнасць, шанаванне праўды, любоў да бліжніх, ахвярнасць і адданасць у служэнні бедным, а таксама міласэрнасць, якую праяўляў розныммі спосабамі, з’яўляюцца цнотамі, да якіх павінен імкнуцца кожны чалавек.

**Дарагія Чытачы!**

На шчасце, сёння ў нас ёсць свабодны доступ да крыніц інфармацыі. Давайце вучыцца добра іх выкарыстоўваць, шукаць сапраўдную мудрасць. Трэба прагнуць штодзень станавіцца ўдзельнікамі цнотаў, каштоўнасцей і даброт, якімі кіраваўся св. Казімір. Абараняйма вызнаваныя вартасці і змагаймася за вялікія ідэалы!

ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

# ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

## Камісія па справах душпастырства сужэнстваў і сем’яў

Сужэнства – гэта адна з найбольшых каштоўнасцей чалавецтва, якая павінна быць акружана асаблівай апекай. Яно з’яўляецца Божай і людской рэчаіснасцю, якую Езус Хрыстус узняў да годнасці сакраманту. Муж і жонка “ў сваім сужэнскім і сямейным жыцці могуць пераказваць любоў самога Бога да людзей і любоў Пана Езуса да Касцёла – Яго Абранніцы”, сцвярджаў св. Ян Павел ІІ у адгартацыі “Familiaris consortio”.

Сёння часта кажуць пра крызіс сям’і і вынікаючы з яго крызіс выхавання. Адной з асноўных прычын можна назваць сучасную “моду” на развод, рэзультаты якога больш за ўсё ўплываюць на дзяцей распадаючагася саюзу. Іншай прычынай з’яўляецца падрыванне вартасці мацярынства і бацькоўства. Канфлікты, міграцыя і насілле таксама аказваюць негатыўны ўплыў і прыводзяць да дэградацыі сямейных сувязей. У адказ на гэтыя выклікі Касцёл нястомна падкрэслівае неабходнасць будавання каштоўных адносін паміж людзьмі, якія грунтуюцца на творчай самааддачы і ўзаемнасці, што абавязваюць да адказнасці і салідарнасці.

Сферай зацікаўленасці сінадальнай Камісіі па справах душпастырства сужэнстваў і сем’яў з’яўляюцца мужы і жонкі, бацькі і дзеці, а таксама асобы, якія плануюць заключыць сужэнскі саюз. Да абавязковых задач камісіі належыць аналіз існуючай душпастырскай апекі ў межах душпастырства сем’яў, прапанова новых магчымасцей фармацыі сужэнцаў і сем’яў, а таксама акрэсленне выразнага шляху на будучыню.

На дадзены момант члены камісіі падкрэсліваюць неабходнасць уніфікацыі існуючай у дыяцэзіі сістэмы падрыхтоўкі да сакраманту шлюбу, а таксама стварэнне парафіяльных ці дэканальных сямейных кансультацый, дзе працавалі б канкрэтныя людзі: святар, псіхолаг, урач або адвакат. Акрамя таго, акцэнт кладзецца таксама на клопат аб евангелізацыі ў сям’і і праз сям’ю, і на прыняцце мер, накіраваных на пашырэнне існуючых сямейных рухаў. Вельмі важнымі лічацца мерапрыемствы, накіраваныя на абарону зачатага жыцця, каб процідзейнічаць забойствам ненароджаных дзяцей.

Закранаюцца таксама пытанні аб стварэнні спецыялізаванага душпастырства, якое б магло ахінуць духоўнай апекай несакраментальныя саюзы. У гэтай сферы важнае месца займае праблема вернасці і неразрыўнасці сакраманту сужэнства, а таксама рэальная магчымасць дапамогі бацькам і дзецям у захаванні прысутнасці Бога і Яго запаведзей у сваім сэрцы і жыцці.

Сужэнства і сям’я – гэта фундамент усяго чалавечага грамадства і яго будучыні. Таму трываючы сінод Гродзенскай дыяцэзіі павінен спрыяць умацаванню сямейных сувязей і будаванню “хатняга Касцёла” па прыкладзе Святой Сям’і з Назарэта, каб кожны чалавек праз сям’ю і ў сям’і мог яшчэ больш наблізіцца да Бога.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Каралевіч, які не баяўся быць святым



● працяг са с. 1

## Нябесны заступнік

Калі казаць пра сувязь святога каралевіча з горадам над Нёманам, трэба ў першую чаргу ўзгадаць страчаную Фару Вітаўта. Будучы ў Гродне, святы прыходзіў да храма нават ноччу. Калі касцёл быў зачынены, Казіміра, які маліўся перад дзвярыма святыні, знаходзілі вартаўнікі.

Ушанавалі асобу св. Казіміра езуіты, якія збудавалі касцёл св. Францішка Ксаверыя. Правы бакавы алтар у гонар каралевіча, узведзены ў 1709 годзе майстрам Кшыштафам Пойкерам, адметны сваімі абразамі.

"Цэнтральны абраз, які паводле некаторых звестак намаляваны знакамітым мастаком Валенціем Ваньковічам, прадстаўляе незвычайную, узнёслую набожнасць каралевіча падчас малітвы, – адзначае кс. канонік Ян Кучынскі, пробашч катэдры. – А ў верхняй частцы алтара знаходзіцца 2-гі твор мастацтва, на якім адлюстраваны цуд св. Казіміра, што меў месца ў 1518 годзе пад Полацкам. Паводле гістрычных звестак, маскоўскія ваяводы аб'ядналіся і вырашылі захапіць старажытны горад, аднак жыхары мужна абараняліся. Пачалася працяглая аблога. Полацкі ваявода Альбрэхт Гаштольд з групоўкай у 2 000 салдат спяшаўся на дапамогу гораду, што цярпеў аблогу, але шырокая і паўнаводная Дзвіна не давала магчымасці перабрацца з вайсковым рыштункам на паўночны бераг. І раптам, паводле шматлікіх сведчанняў, салдаты ўбачылі вершніка на кані, які знакамі паказваў, каб ішлі за ім. Войска рушыла ў ваду і натрапіла на добры брод. Перайшоўшы праз Дзвіну, армія Вялікага Княства неспадзявана ўдарыла ў спіну значна большаму па колькасці маскоўскаму войску. У шэрагах захопнікаў пачалася паніка. Частка салдат кінулася ў Дзвіну і патанула. Палачане, якія ўжо амаль страцілі надзею на дапамогу, былі надзвычай уражаны цудоўным выратаваннем".

**З біяграфіі святога каралевіча ведаем, што ён памёр, маючы 26 гадоў. Але за такое нядоўгае жыццё здолеў выбраць зусім не ўласцівы магнату шлях. Ён старанна вучыўся, быў добра выхаваным, захаваў у сэрцы зерне веры, якое саграваЛа кожнага, хто знаходзіўся побач.**

Кс. Ян таксама падкрэслівае, што нягледзячы на вельмі кароткі час побыту св. Казіміра ў Гродне, памяць пра яго жывая ў горадзе дагэтуль. Так ужо больш за 15 гадоў у катэдры існуе традыцыя: 4 сакавіка а 9-ай гадзіне раніцы пры алтары св. Казіміра адпраўляецца св. Імша, а цягам дня ёсць магчымасць ушанаваць яго рэліквіі. Таксама святы з'яўляецца апекуном Катэдральнага капітула, яго імя носіць Гродзенскі тэалагічны каледж. У дыяцэзіі яму прысвечаны 4 святыні: ва Уселюбе (самая старэйшая з іх, узведзена ў сярэдзіне XVII стагоддзя), у Ліпнішках, Нецечы і Путрышках.

Цікавы таксама той факт, што ў міжваенны час у Гродне існавала вуліца св. Казіміра. На пачатку 1990-ых гадоў тапанімічная камісія прапанавала назваць у гонар святога вуліцу Кастрычніцкую, што ў самым цэнтры горада, але гэтая задумка не знайшла падтрымкі.

## Гродзенскія "Казюкі"

У Гродне св. Казіміра ўшаноўваюць не толькі малітвай. Кожны год 4 сакавіка цэнтральная плошча ператвараецца ў адзін вялікі горад майстроў. У гэты дзень народныя ўмельцы выстаўляюць на продаж свае лепшыя творы: кераміку, саламяныя кветкі, вырабы са скуры, дрэва, лазы, велікодныя пальмы, вышытыя абрусы... Гэтае народнае свята называецца "Казюкі" – у гонар св. Казіміра, апекуна рамеснікаў.

Людміла Лебедзь, метадыст цэнтра культуры "Спадчына", адзначае, што гродзенскія "Казюкі" пачалі ладзіцца прыкладна 15 гадоў таму.

"На выставе-продажы звычайна прадстаўлена каля 30-ці відаў традыцыйных народных рамёстваў і сучаснага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Мэта гэтага мерапрыемства – не толькі прадэманстраваць разнастайнасць цікавых і непаўторных ручных вырабаў, але і паказаць гісторыю таго ці іншага рамяства, выявіць тэндэнцыю яго развіцця, – гаворыць спадарыня Людміла. – Мы цешымся, што сучасныя майстры клапоцяцца аб тым, каб іх прадукцыя адпавядала гістарычнай праўдзе, а таксама мела высокую мастацкую вартасць.



Жанчына падкрэслівае таксама, што "Казюкі" славяцца не толькі святочным гандлем, але і культурнай праграмай. У ёй заўсёды прысутнічаюць элементы тэатралізацыі. На выставе-продажы на вачах шматлікіх гледачоў адбываецца цырымонія пасвячэння пачаткоўцаў у рамеснікі. Згодна з традыцыяй, маладому рамесніку, які дэманструе добрае веданне сваёй справы, старэйшыя калегі павінны пастукаць драўлянай лыжкай па далонях. Няўмелы ж пачатковец на жартоўным выпрабаванні рызыкуе атрымаць лыжкай па галаве.

Сёлета падчас кірмашу таксама не абмінуць увагай лепшых майстроў, якія плённа працавалі на працягу года. Раней узнагароджванне адбывалася ў вузкім коле, а зараз пройдзе больш маштабна, паколькі таленавітыя людзі вартыя таго, каб іх імёны прагучалі на шырокай публіцы.

У гэтым годзе "Казюкі" будуць праходзіць на працягу 2-х дзён: 3 і 4 сакавіка. Афіцыйнае адкрыццё свята адбудзецца на прыступках Палаца культуры тэкстыльшчыкаў. У кірмашы прымуць удзел майстры з амаль усіх раёнаў Гродзеншчыны, а таксама госці з Літвы і Польшчы.

*Кінга Красіцкая*

## А ці ведалі Вы, што...

Бацькам св. Казіміра быў Казімір IV Ягелончык (памёр у 1492 годзе таксама ў Гродне), маці – Альжбета з Габсбургаў. Чацвёра ягоных братоў (Уладзіслаў, Ян Ольбрахт, Аляксандр і Жыгімонт) сталі каралямі, а пяты Фрыдэрык – кардыналам і прымасам Польшчы. З 6-ці сясцёр будучага святога 2 памерлі ў дзяцінстве, а 4 павыходзілі замуж за еўрапейскіх манархаў, дзякуючы чаму ў жылах усіх сённяшніх манархаў Еўропы цячэ хаця б кропля крыві Ягелонаў.

Калі ў 1602 годзе адкрылі труну каралевіча Казіміра, аказалася, што яго цела не падлегла зменам. Там жа ляжаў некрануты гімн у гонар Марыі "Omni die dic Mariæ" ("Кожны дзень праслаўляй Марыю"), аўтарства якога ранейшыя польскія гісторыкі прыпісвалі самому Казіміру, але высветлілася, што ён значна старэйшы і хутчэй за ўсё створаны св. Бярнардам у XII стагоддзі.

З мошчамі св. Казіміра звязваюць шэраг цудоўных аздараўленняў. Да прыкладу, канонік Свяніцкі запісаў 408 цудаў, якія адбыліся ля труны каралевіча да 1627 года. Самы вядомы з іх – уваскрашэнне Уршулкі, дачкі віленскага мяшчаніна. Вядома, што хворыя, якія шчыра маліліся ля труны, вылечваліся, сляпыя пачыналі бачыць, а глухія – чуць. Былі таксама выпадкі аздараўлення псіхічна хворых асоб.

Св. Казіміра традыцыйна малююць у княжацкім уборы з лілеяй у руцэ і мітрай на галаве. У Вільні захоўваецца незвычайная выява святога, якая лічыцца цудадзейнай: на абразе св. Казімір намаляваны з 3-ма рукамі. Згодна з паданнем, калі мастак скончыў сваю працу, то ўбачыў, што адна рука святога атрымалася непрапарцыянальнай і ненатуральнай. Тады ён вырашыў зафарбаваць гэтую руку і намаляваць іншую. Якое ж было яго здзіўленне, калі на наступны дзень зафарбаваная рука праявілася з-пад пласта фарбы. І колькі б мастак не спрабаваў памылку, выправіць сваю выява не паддавалася перарабліванню. Так паўстаў абраз "Трохрукі Казімір".

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Я думаю пра вас і вашы намаганні ў гэтыя дні, калі абмяркоўваеце ключавыя пытанні, у тым ліку выклікі палітыкі, эканамічнага развіцця, ахову навакольнага асяроддзя, выкарыстанне тэхналогій. Хацелася б, каб фундаментам разважання было не столькі "што з'яўляецца найлепшай нагодай да эксплуатацыі?", колькі "які свет мы хочам разам пабудаваць"? Гэтае пытанне дазваляе працаваць з думкай пра народы і людзей, а не толькі пра выгаду і эканамічныя інтарэсы. Яно не абмяжоўваецца перспектывай аднаго дня, але глядзіць у будучыню, датычыць адказнасці, якая ляжыць на нас – перадаваць свет тым, хто прыйдзе пасля, абараняць яго ад дэградацыі: як навакольнага асяроддзя, так і маральнай.*

*На самой справе немагчыма гаварыць пра ўстойлівае развіццё без салідарнасці. Можна нават казаць, што дабро, калі не з'яўляецца супольным, не служыць чалавецтву адпаведна. Магчыма, цяпер, як ніколі раней, каб думаць і дзейнічаць, патрэбен сапраўдны дыялог з іншымі, таму што без яго не ніякай будучыні для кожнага з нас. Таму я жадаю вам, каб час сваіх разважанняў і працы вы пачыналі з улядання ў людскія аблічччы, з адчування крыку народаў і бедакоў, з роздуму над пытаннямі дзяцей.*

*Фрагмент паслання да ўдзельнікаў Сусветнага саміту, 10.02.2019*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Яшчэ зусім нядаўна мы дзівіліся таму, што ў амерыканскіх школах, супермаркетах, на вуліцах страляюць, забіваюць і калечаць людзей, у тым ліку і дзяцей. Цяпер жа падобная практыка становіцца рэальнасцю жыцця мірнай Беларусі. Шукаючы прычыны гэтых і падобных трагедый, недастаткова засяроджвацца толькі на сацыяльных праблемах ці сямейных абставінах, у тым ліку на сямейным гвалце, супраць якога быў і застаецца настроены Касцёл. На мой погляд, прычына больш глыбокая.*

*Тры пакаленні атэізацыі не прайшлі дарма. Чалавек адарваўся ад каранёў духоўнага жыцця – Евангелля і вучэння Касцёла. За апошнія дзесяцігоддзі сітуацыя змянілася, але не настолькі, каб максімальна спрыяць сапраўднаму духоўнаму адраджэнню.*

*Разам з тым неабходна звярнуць увагу на праблему духоўнага выхавання маладога чалавека. Гэта той падмурак, на якім павінна будавацца будучыня моладзі, будучыня нашай Бацькаўшчыны. Трэба ўчыніць усё магчымае для належнага, здаровага выхавання маладога пакалення на духоўных каштоўнасцях з мэтай дасягнення шчаслівай будучыні Беларусі.*

*Фрагмент звароту з нагоды стаўбцоўскай трагедыі, 11.02 2019*



*◆ Святы Айцец прызначыў Камерленга Святога Рымскага Касцёла. Ім стаў кард. Кэвін Фарэл, прэфект Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця. Перад ім гэтую функцыю выконваў памерлы ў ліпені мінулага года кард. Жан-Луі Таран. Кардынал камерленг мае ключавую ролю пасля смерці Папы або яго адмовы ад пасады. Гэта ён сцвярджае і абвяшчае аб смерці Святога Айца, знішчае персцень рыбака і папскія пячаткі, а таксама кіруе Касцёлам і Ватыканам да часу выбару новага Наступніка св. Пятра.*

*◆ У пакістанскіх вязніцах сёння знаходзіцца 187 хрысціян, абвінавачаных на падставе закона аб блюзнерстве, які дзейнічае ў краіне ўжо больш за 30 гадоў. Гэтыя даныя перадала Нацыянальная камісія справядлівасці і міру, якая існуе пры Канферэнцыі біскупаў Пакістана. Яна падкрэслівае, што ўзгаданыя законы аб блюзнерстве "моцна абмяжоўваюць свабоду рэлігіі і пераканання", бо часта выкарыстоўваюцца як інструмент праследавання рэлігійных меншасцей".*

*◆ Касцёл у Францыі занепакоены ростам колькасці нападаў на каталіцкія святыні. На думку ардынарыя дыяцэзіі Нім, надышоў новы этап агрэсіі. "Дагэтуль невядома, чым кіруюцца злачынцы. Паражае тое, што гэтыя дзеянні ўчынены абсалютна наўмысна, і гаворка ідзе не толькі аб вандалізме, але і аб прафанацыі", – гаворыць бп Роберт Ватэблэд. Так было менавіта ў Німе, дзе апаганілі кансэкраваныя Гостыі, укінуўшы іх у экскрэменты, якімі вымазалі таксама крыж.*

*◆ Рэзультатам падарожжа папы Францішка ў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты стала падпісаная з імамам Аль-Азхара, найбольш аўтарытэтнага інстытута ў свеце суніцкага ісламу, дэкларацыя аб братэрстве на карысць міру ў свеце. Яна моцна акрэслівае не толькі гісторыю хрысціянска-ісламскіх адносін, але і ўсяго мусульманскага свету. Адназначна паказвае, што без сапраўднага братэрства мы не будзем здольны стрымаць Трэцюю сусветную вайну па кавалках. "Гэтая дэкларацыя ставіць выклік для абодвух бакоў, – заўважае Андрэа Тарніэлі, прагрgalм ны дырэктар ватыканскіх СМІ, які спадарожнічаў Папе ў паездцы. – Варта заўважыць, як у ёй гаворыцца пра крыніцы тэрарызму і фундаменталізму. Гэта не толькі памылковая інтэрпрэтацыя рэлігійных тэкстаў, але і пэўная «духоўная хвароба», якую перажываюць нашы грамадствы, адыходзячы ад рэлігіі і этыкі, што спрыяе росту адчаю і фанатызму".*

*◆ У структурах "Карытас" Беластоцкай архідыяцэзіі з'явілася першая ў Польшчы Медыцынская служба "Карытас". Група вопытных медыкаў будзе дзейнічаць на карысць жыхароў Беластока і рэгіёна ў сферы прафілактыкі здароўя, адукацыі і выратавальных работ.*

*ekai.pl; vaticannews.va; wiara.pl*



# Пра ўнутраны стрыжань, або лікбез пра пачаткі сталасці

Бывае, што дзіця плача, калі бацькі, напрыклад, забіраюць планшэт, бо трэба ісці спаць. Яно не можа распазнаць жэсту клопату, не разумее выхаваўчай неабходнасці гэтага кроку. Так і мы ў сваім паўсядзённым жыцці часам трымаемся за штосьці нявартае, як за апошнюю саломінку.

Калі Езус ступае па нашых бушуючых водах – неўпарадкаваных сяброўствах, неадэкватным адпачынку, неўтаймаванай агрэсіі, – мы крычым, як апосталы ў сваёй лодцы, убачыўшы "прывід" на моры. Выйсці са сваёй схемы, са свайго чаўна, як гэта ўчыніў Пётр – значыць паспрабаваць пашырыць свой погляд. Значыць зірнуць на сяброўства з перспектывы ўпарадкаванасці, на адпачынак – з перспектывы карыснасці, а на агрэсію – з перспектывы асертыўнасці.

Сталасць не набываецца аўтаматычна, да яе трэба ісці крок за крокам. Прычым узрост іграе далёка не першую ролю. Адгадуй сівую бараду – старцам не станеш. Тут дзейнічае іншы парадак – неабходна абдуманае рашэнне. Так Пётр свядома адважыўся змяніць "крык боязі перамен" у сталую радасць, калі пастанавіў адправіцца насустрач Настаўніку. Падобна і нам для выйсця з лодкі свайго эгацэнтрызму трэба на гэта рашыцца. Магчыма, пара гадзін разважання магла б стаць добрым пачаткам. А пасля – чвэрць гадзіны шчырасці штодня на вечаровым рахунку сумлення. І першы пункт у гэтых практыках (як медытацыі, так і рахунку сумлення) – паглядзець на парадак Езуса і на свой беспарадак, на Яго плённасць і сваю страту часу, на Яго ўнутраны стрыжань і сваю саломінку.

Словамі св. Паўла скажам: "Няхай вашы думкі будуць такімі, як у Хрысце Езусе" (Філ 2, 5). Для звычайнага эгацэнтрычнага ўзроўню сталасці характэрны ўнутраны яркі вобраз, схема, ідэал. Дык вось, неабходна замяніць свайго ўнутранага куміра на Езуса. І гэта самае важнае. Трэба фарміраваць свой маяк – вобраз Хрыста – і пазнаваць Яго, а не пакідаць такім, якім яго, прабачце, "зляпала" жыццё. Бо калі самастойна не дастасоўваць гэты вобраз да евангельскага, то гэта зробяць іншыя: фальшывыя прарокі, акружэнне, СМІ... Важна не быць марыянеткай, а фарміраваць свой унутранны свет, супрацоўнічаючы з Божым словам. Св. Іеранім адзначаў: "Калі не чытаеш Святога Пісання – не ведаеш Хрыста; не разважаеш, дастасоўваючы Яго жыццё да свайго – не ведаеш сябе".

Чаму не чытаем Пісанне? Чаму цяжка медытаваць? Таму што гэта наш унутраны крык на Езуса – на прывід, які мы яшчэ не пазналі. Важна зрабіць высілак, каб перамагчы стомленасць і ўнутранае супраціўленне, якое з'яўляецца свайго роду перашкодай ласцы перамены, трансфармацыі.

**У нас пануе два валадарствы: Езуса – княства гармоніі – і сатаны – княства супраціўлення, беспарадку. Якое з іх мы будзем больш у сваіх думках, практыках і дзеяннях "падкармліваць", на якім будзем больш канцэнтравацца і сузіраць – тое валадарства і пераможа.**

*Кс. Раман Суша*

# Сталенне і яго адсутнасць, або як быць цярплівым да сябе



***Сталасць. Што гэта такое? Ці можна быць дарослым, але не сталым і пры гэтым шчаслівым? Ці быць шчаслівым – гэта значыць быць сталым?***

Электронныя слоўнікі пра сталасць гавораць так: "На перыяд сталасці прыпадаюць найбольш значныя і жыццёва важныя падзеі: стварэнне сям'і і сямейнага дабрабыту, фарміраванне сямейных адносін і бацькоўскіх абавязкаў; завяршаецца фарміраванне індывіда як асобы, асноўнымі асаблівасцямі якой з'яўляюцца пачуццё адказнасці, патрэбнасць клапаціцца аб іншых людзях, здольнасць да актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці, да эфектыўнага выкарыстання сваіх ведаў, здольнасць канструктыўна вырашаць жыццёва важныя праблемы на шляху найбольш поўнай самарэалізацыі". "Сталы – пра чалавека: сфарміраваны інтэлектуальна і эмацыянальна".

У першым тлумачэнні на "жыццёва важныя падзеі" можна паглядзець шырэй і назваць іх адшуканнем свайго жыццёвага шляху. Так ці інакш, ад сталай асобы чакаецца пэўны сацыяльны і ўнутраны ўзровень развіцця. Гэта нармальна, бо такія чаканні можна назваць арыенцірамі, што сфарміраваліся цягам нейкага прамежку часу і адлюстроўваюць пэўную якасць жыцця: добрага і шчаслівага. Ці можна ў іх кантэксце разглядаць сваё жыццё? Чаму не! Аднак важна дадаць, што мы маем розныя старты, г. зн. сталеем па-рознаму і ў розным узросце. Мы не робаты з праграмамі, а людзі са сваімі страхамі і разнастайнымі ўнутранымі праблемамі, якія трэба зразумець, асвоіць, пераадолець. Кожны з нас успрымае ўласныя страхі і праблемы па-свойму: камусьці яны перашкаджаюць больш, камусьці менш, хтосьці хутчэй вучыцца з імі жыць, а хтосьці патрабуе дапамогі. Ад гэтага, між іншым, залежыць, як і калі мы дасягнём таго ўзроўню жыцця, які можна назваць сталасцю.

У гэтым кантэксце важна быць цярплівым адносна сябе і ўсведамляць, што тут няма адной схемы сталення для ўсіх. Быць цярплівым – значыць са спакоем прымаць сябе і сваю сцежку развіцця, сваё жыццё. З гэтым непасрэдна звязана і пачуццё шчасця. Бо калі мы будзем залішне турбавацца аб тым, што знаходзімся тут, а не там, маем гэта, а не тое, што блізкія людзі не такія, як бы нам хацелася, а да гэтага яшчэ і гара праблем, то не адчуем унутранага спакою, які суправаджае пачуццё шчасця.

"Вось ляжу я і думаю: 26 гадоў, а ні арганізаванасці, нічога", – гэта пра мяне мама неяк сказала. Не, не крыўдна. Словы прагучалі з пэўным клопатам, спакойна і пасля майго аповеду пра тое, як я перад паездкай у Варшаву на Новы год не наставіла будзільнік і ў выніку праспала свой аўтобус (разам з 50-цю рублямі альбо каля таго, бо такі быў агульны кошт білета). Не крыўдна і таму, што мама сказала праўду.

З боку гледзячы, я не вельмі арганізаваны і ўпарадкаваны ў сэнсе планавання часу чалавек. Па пэўных сацыяльных мерках сталасці мне было б пажадана мець сям'ю ды працу па спецыяльнасці, у якой я б развівалася і добра зарабляла. І гэта не дрэнна, а наадварот: цудоўна быць жонкай і мамай, а таксама развівацца прафесійна. Толькі не дрэнна і быць незамужняй, і працаваць не па спецыяльнасці. І ў першым, і ў другім выпадку шчаслівым можна быць, а можна і не быць, бо шчасце – гэта ўнутраны стан, і залежыць ён не ад знешніх абставін, а ад нашага стаўлення да іх, ад перспектывы, з якой глядзім на свет, ад нашых выбараў.

Нельга суха параўноўваць сваё жыццё з нейкімі сацыяльнымі нормамі ці нават мераць яго спадзяваннямі, якія родныя ці блізкія маюць адносна нас. Нельга, таму што мы развіваемся не па заканамернасці: раз на год старэйшы, значыць унутрана сталейшы, значыць аўтаматычна з большымі дасягненнямі ў прафесійным і асабістым жыцці. Сталасць – гэта не дасягненні, а наша стаўленне да іх наяўнасці альбо адсутнасці. Сталасць – гэта цярплівае ўспрыманне сябе, уласных хібаў, а таксама ўмелае выкарыстанне сваіх моцных бакоў.

*Кацярына Паўлоўская*

# "Сакральная спадчына Панямоння"

**Панямонне – унікальні рэгіён, дзе на працягу многіх стагоддзяў цесна суіснавалі розныя народы, веравызнанні, культуры, якія пакінулі пасля сябе шматлікія матэрыяльныя помнікі. Творы мастацтва, якія дайшлі да нашых дзён, захоўваюцца ў музеях і рэлігійных установах Беларусі. Некаторыя з іх былі прадэманстраваны ў Сенатарскай зале Новага замка ў рамках выставы "Сакральная спадчына Панямоння". Гэта ўнікальны збор культавых рэчаў, які прадстаўляе хрысціянскія канфесіі нашага краю. Частку экспазіцыі склалі экспанаты, гісторыя якіх звязана з дзейнасцю сясцёр брыгітак у Гродне. Прапануем пазнаёміцца з найбольш цікавымі з іх.**

## АПОСТАЛЬСКІ РАД "ХРЫСТОС, МАРЫЯ І 12 АПОСТАЛАЎ"



*Калі манахіні прыходзілі на службу ў касцёл, то займалі месца на хорах. Парапет хораў касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі быў упрыгожаны апостальскім радам. Калі выставіць усе іконы адну за другой, атрымлівалася палатно каля 8-мі метраў у даўжыню. Гэтыя абразы размяжоўвалі манахінь і людзей, якія знаходзіліся знізу. У цэнтры палатна – Езус і Панна Марыя, а па баках – 12 апосталаў. Цікава, што вучні Хрыста адлюстраваны з тымі сімваламі, ад якіх загінулі.*

## КАРЦІНА "КЛЯШТАР БРЫГІТАК", 1927 Г.



*Дзякуючы гэтаму твору гродзенскага мастака Зыгмунта Буйноўскага можна ўбачыць, як выглядаў касцёл у міжваенны перыяд.*

## АБРАЗ "МАЦІ БОЖАЯ БАРКОЎСКАЯ", 1-АЯ ПАЛОВА XVIII СТ.



*Копія цудатворнага абраза створана ў тэхніцы дрэварыту: ікона спачатку выгравіроўвалася на паперы, затым папяровая выява прыклейвалася на палатно, а потым – на дрэва. Твар размалёўваўся ўручную, а вакол змяшчаліся сюжэты з цудамі.*

## АБРАЗ "ТАНЕЦ СМЕРЦІ", 1-АЯ ПАЛОВА XVIII СТ.



*Цэнтральны сюжэт – 2 д'яблы вудамі ловяць у вадзе людзей, дзе таксама плаваюць каралеўскія кароны і папскія тыяры. Навокал малюнкі, якія адлюстроўваюць усе сацыяльныя слаі грамадства перад абліччам смерці. Галоўны сэнс малюнкаў і подпісаў пад імі – паказаць марнасць чалавечага жыцця, бяссілле ўлады і багаццяў перад смерцю, неабходнасць імкнення да вечнага жыцця ў Небе.*

## АРНАТ – ЭЛЕМЕНТ ЛІТУРГІЧНАГА АДЗЕННЯ КАТАЛІЦКАГА КЛІРЫКА; ШАТА, 1780-ЫЯ ГГ.



*Адным з заняткаў сясцёр было рукадзелле. Яны вышывалі, ткалі, а таксама выраблялі карункі. На некаторых арнатах відаць, што аздабленне старэйшае за саму тканіну. Гэта тлумачыцца тым, што калі арнат знашваўся, карункі адпорвалі і прышывалі на новае ўбранне.*

*Што да шаты, то ёю пакрываліся мошчы св. Клеменса ў пабрыгіцкім касцёле. Рэліквіі святога былі дастаўлены з Рыма ў Гродна дзякуючы намаганням Караля Літавора Храптовіча – харунжага надворнага ВКЛ, гродзенскага старасты з 1786 года.*

## ДАКУМЕНТЫ З АРХІВА БЫЛОГА ГРОДЗЕНСКАГА БРЫГІЦКАГА КЛЯШТАРА



*Яшчэ некалькі гадоў таму яны літаральна рассыпаліся ў руках: лісты паперы былі моцна пашкоджаны і закрануты цвіллю. У такім стане з архіва пабрыгіцкага касцёла дакументы трапілі ў музей больш за 50 гадоў таму. Працаваць з імі было немагчыма. 2 гады назад Падляшскі музей, які супрацоўнічае з Гродзенскім, атрымаў грант на рэстаўрацыю дадзеных дакументаў. Увесну 2018 года праца была завершана, і каля трохсот старонак-картак вярнуліся ў архіў. Датуюцца яны рознымі эпохамі – ад XVI да XX стагоддзя. Сярод іх – рэгламент жыцця манахінь, малітоўнікі, спеўнікі і дакументы т. зв. гаспадарчага ўліку – дагаворы, вопісы.*

## СТАРАДАЎНІЯ КНІГІ: АФТОНІЙ. "ПРАГІМНАСМАТА", 1649 Г. (З БІБЛІЯТЭКІ ГРОДЗЕНСКАГА ЕЗУІЦКАГА КАЛЕГІУМА); ХУАН АД ЕЗУСА-МАРЫІ. "НАСТАЎЛЕННЕ ПАСЛУШНІКАМ", 1642 Г.; ГРЭЙВЕСАН І. "ГІСТОРЫЯ ЦАРКВЫ", 1761 Г. (З БІБЛІЯТЭКІ ГРОДЗЕНСКАГА КЛЯШТАРА КАРМЭЛІТАЎ БОСЫХ); ШЭРЦЭР Ё. "КІШЭННЫ ДАВЕДНІК ПА ФІЛАСОФІІ", 1654 Г. (З БІБЛІЯТЭКІ ГРОДЗЕНСКАГА КЛЯШТАРА ФРАНЦЫСКАНЦАЎ)



*Манаскія ордэны ў Гродне валодалі шыкоўнымі бібліятэкамі. Кніга "Прагімнасмата" цікавая не столькі тым, што надрукавана ў Амстэрдаме некалькі стагоддзяў таму, а сваім надпісам: "Кніга з кабінета магістра паэтыкі". Тут няма канкрэтнага імя, а названа толькі пасада. Гэтая з'ява тлумачыцца фактам, што ў далёкія часы кнігі былі вельмі каштоўнымі рэчамі. Статут езуіцкага ордэна не дазваляў айцам мець уласныя вялікія бібліятэкі. Кожныя 3 гады езуіт пераходзіў з адной пасады на другую, і перавозіць за сабой друкаваныя выданні было праблематычна. Таму ўсе кнігі былі ўпісаны ў адпаведны каталог, замацоўваліся за пэўнымі кабінетамі і захоўваліся менавіта ў іх.*

## ПАРТРЭТЫ ВЯДОМЫХ МАГНАТАЎ ВКЛ ВЯСЕЛАЎСКІХ: КШЫШТАФА ВЯСЕЛАЎСКАГА, ВЯЛІКАГА МАРШАЛКА ВКЛ, ЯГО ЖОНКІ АЛЯКСАНДРЫ МАРЫЯНЫ З САБЕСКІХ І ПРЫЁМНАЙ ДАЧКІ ГРЫЗЕЛЬДЫ САПЕГА З ВАДЫНСКІХ



*Доўгі час карціны лічыліся згубленымі падчас ІІ Сусветнай вайны, але ў 1966 годзе іх знайшлі ў крыпце касцёла. Палотны не выпадкова апынуліся ў гэтых мурах. Гродзенскі кляштар ордэна св. Брыгіты быў заснаваны менавіта Вяселаўскімі ў памяць аб прыёмнай дачцы, якая рана пайшла з жыцця. Сёння гэтыя партрэты займаюць пачэснае месца сярод экспанатаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.*

## КАФЕДРА, 1646 Г.



*У брыгіцкім кляштары знаходзілася агульнае для ўсіх сясцёр памяшканне, дзе яны кантактавалі паміж сабой, вышывалі, выконвалі нейкую працу. Каб час не прападаў на марна, адна з манахінь станавілася за кафедру і чытала рэлігійныя тэксты. Прадстаўленая на выставе кафедра адметная сваім дэкорам. На ёй бачым выявы Езуса Хрыста, св. Аўгусціна, св. Брыгіты і св. Кацярыны Шведскай.*

**Выстава "Сакральная спадчына Панямоння" створана на падставе фондавых калекцый Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, Нацыянальнага мастацкага музея РБ, калекцыі музея гродзенскага брыгіцкага кляштара і кляштара Кангрэгацыі Святой Сям'і з Назарэта.**

*Кінга Красіцкая*







### Распачаты беатыфікацыйны працэс а. Пэдра Арупэ

***Больш за 30 гадоў айцец быў Генеральным настаяцелем Таварыства Езуса (ордэн езуітаў).***

*Будучы місіянерам у Японіі, перажыў ядзерную бамбардзіроўку. Каб дапамагаць пацярпелым, разгарнуў у будынку навіцыяту палявы шпіталь і сам аказваў дапамогу параненым.*

*Пазней, ужо ў якасці Генеральнага настаяцеля Таварыства Езуса, а. Арупэ вёў свой ордэн шляхам паслясаборнага аднаўлення, ставячы ў цэнтр увагі найбольш гаротных, асабліва бежанцаў.*

*Сёння нямала вернікаў у Рыме і ў свеце падмацоўваюцца яго духоўнымі творамі, даручаюць сябе яго заступніцтву. Імя Пэдра Арупэ носяць сотні супольнасцей, апостальскіх ініцыятыў і праграм ва ўсім свеце.*




### Стартуе Армія малітвы

***Яе мэтай з'яўляецца яднанне польскіх супольнасцей і рухаў на малітве за Папу, а таксама знаёмства з яго навучаннем.***

*Армія малітвы мае быць натуральным працягам ідэі "Адзін за ўсіх, усе за аднаго", дзякуючы якой ружанцовая малітва за Святога Айца будзе трываць цэлы год.*

*"Мы хочам арганізаваць не аднаразовую акцыю, якая пагасне, як запалка. Прагнем, каб гэта была доўгатэрміновая ініцыятыва, якая, як лямпа, будзе прыгадваць аб патрэбе малітвы за Папу", – заўважаюць арганізатары малітоўнай акцыі.*




### Рэлігійна актыўныя асобы больш шчаслівыя

***Яны таксама больш сацыялізаваныя і ўцягнутыя ў дабрачыннасць, чым іншыя.***

*Гэта вынікае з апошніх даследаванняў амерыканскага інстытута "Pew Research Center" пасля падсумавання даных з анкетавання, праведзенага ў больш за 20-ці краінах свету.*

*Хоць рэзультаты не даказваюць, што ўдзел у касцёльных набажэнствах з'яўляецца непасрэднай прычынай шчаслівага жыцця, тым не менш, у многіх краінах можна заўважыць выразную тэндэнцыю. Напрыклад, у Злучаных Штатах Амерыкі 36% рэлігійна актыўных рэспандэнтаў акрэсліді сябе як "вельмі шчаслівых". У выпадку нерэлігійных амерыканцаў так лічаць толькі 25%.*




### *Якая розніца паміж індывідуальнай малітвай і св. Імшой з замоўленай інтэнцыяй?*

*Паводле Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, св. Імша – гэта ахвяра Цела і Крыві Езуса Хрыста, якую Ён установіў, каб увекавечыць ажно да свайго прыйсця ахвяру Крыжа, даручаючы такім чынам Касцёлу ўспамін сваёй смерці і ўваскрасення. Інакш кажучы, гэта асноўная падзея з жыцця Езуса, у якую мы трапляем, пераадолеўшы бар'еры часу і прасторы.*

*Ад пачатку стварэння чалавек прыносіў Богу розныя ахвяры. Але з-за людскога граху яны не маглі падабацца Усемагутнаму. Таму Ён у міласэрнасці сваёй паслаў у свет свайго Адзінароднага Сына, які ахвяраваў сябе дзеля адпушчэння грахоў свету. Гэтую падзею мы ўспамінаем падчас кожнай св. Імшы. Тым самым ажыццяўляецца сапраўдная і найвышэйшая ахвяра, якую Езус прыносіць Айцу за ўсё чалавецтва.*

*Касцёл вучыць, што існуе некалькі відаў плёну св. Імшы, сярод якіх – агульны і асаблівы. Агульны плён вынікае з ахвяры святара, якую ён складае за Касцёл, г. зн. за ўсіх людзей: жывых і памерлых. Гэты плён здзяйсняецца нават пры адсутнасці спецыяльнай інтэнцыі. Асаблівы плён дорыць св. Імша ў выніку выразнага намеру святара, які яе цэлебруе і моліцца ў вызначанай інтэнцыі. Менавіта такі тып плёну Эўхарыстыі маюць на ўвазе вернікі, калі "замаўляюць" св. Імшу. Але гэта не азначае, што ўсе, хто ўдзельнічае ў набажэнстве, абавязаны прадставіць Богу дадзеную інтэнцыю. Кожны веруючы можа ўдзельнічаць у св. Імшы з уласным намерам.*

*Касцёл выразна гаворыць пра тое, што ўдзел у св. Імшы праз Эўхарыстыю напаўняе кожнага з нас ласкай і блаславеннем Неба, узмацняе ў пілігрымаванні па зямным жыцці і абуджае прагу вечнага жыцця, ужо цяпер яднае з Хрыстом, які сядзіць праваруч Айца, з нябесным Касцёлам, блаславёнай Дзевай і ўсімі святымі (параўн. ККК 1402–1405). Асабістая малітва, нягледзячы на вялікую вартасць, не можа запэўніць нам такую вялікую ласку.*

***Кс. Дзмітрый Леўчык***
*Паводле grodnensis.by*

# Разам у святасці

***Калі ідзе гаворка пра святых, хто найперш прыходзіць на думку? Напэўна, кананізаваныя духоўныя асобы – людзі, якія сваім жыццёвым шляхам абралі поўнае прысвячэнне сябе Госпаду. Аднак гэта не адзіная сцежка, якая вядзе да святасці.***

***Дзе як ні ў сужэнстве чалавек мае магчымасць узрастаць у ахвярнасці і праведнасці? Каханне мужа і жонкі праходзіць шматлікія выпрабаванні: быт, непаслухмянасць дзяцей або немагчымасць зачацця, нявернасць, недахоп увагі, якую ён ці яна лічаць за лепшае ўдзяліць сябрам, працы або ўласным захапленням. Калі сужэнцы здольны захаваць сям'ю насуперак нягодам, гэта сведчыць пра іх адважнае трыванне ў любові і Божай ласцы, якую атрымалі падчас сакраманту шлюбу.***

***Мы маем шчасце жыць у часы, калі Касцёл на афіцыйным узроўні прызнае святасць сужэнцаў, уводзячы паняцце "святасці абодвух". Пачатак XXI стагоддзя адзначыўся завяршэннем беатыфікацыйнага і кананізацыйнага працэсаў 2-юх сем'яў: Бельтрамэ-Кватрокі і Мартэн.***

***Гэтыя сужэнствы на ўласным прыкладзе паказалі, што поўнае гармоніі жыццё магчымае, а звычайнасць сямейных будняў можа стаць прамой дарогай да Бога.***

## Луіджы і Марыя Бельтрамэ-Кватрокі. Прэцэдэнт у гісторыі Касцёла



Луіджы і Марыя з'яўляюцца першай сужэнскай парай, вынесенай да хвалы алтара. У 2001 годзе Папа Рымскі Ян Павел II абвясціў іх блаславёнымі. Красамоўным з'яўляецца той факт, што літургічны ўспамін сужэнцаў прызначаны не на дзень іх смерці, як гэтага патрабуе традыцыя Касцёла, а на дзень, калі Луіджы і Марыя прынялі сакрамант шлюбу – 25 лістапада. Менавіта гэты момант стаў для абодвух пачаткам іх "нараджэння для Неба".

Луіджы належаў да заможнай сям'і высокапастаўленага працаўніка прэфектуры. Марыя – да аднаго са старэйшых фларэнцкіх родаў, з якога, дарэчы, паходзіў папа Клеменс XII. Маладыя людзі ўпершыню спаткаліся ў Рыме. Сустрэча ў вечным горадзе, якую яны пасля называлі "каханнем з першага погляду", нібы прадракла нятленнасць іх любові.

На момант шлюбу Луіджы быў перспектыўным студэнтам правазнаўства, а Марыя вывучала педагогіку і ўжо мела за плячыма некалькі публікацый на тэму хрысціянскага выхавання. Набожнасць жонкі моцна спрыяла ажыўленню веры мужа. Паступова яны разам сталі пачынаць дзень са св. Імшы і заканчваць супольнай малітвай, адгаворваць Ружанец і чытаць Святое Пісанне.

Духоўнае развіццё сужэнцаў было бачна і знешне. Працуючы адвакатам, Луіджы стаў прыкладам для многіх калег, якія, зважаючы на яго маральна бездакорную службу і публічнае вызнаванне веры, вярнуліся да сакраментальнага жыцця. Разам з тым падчас панавання ў краіне фашысцкай улады Луіджы неадназначна адмаўляўся ад высокай пасады, каб не мець сувязі з несумленнацюю дыктатарскага рэжыму. У сваю чаргу Марыя працягвала пісаць і выдаваць кнігі па каталіцкай педагогіцы, праводзіла актыўную дабрачынную дзейнасць на карысць хворых, а падчас Другой сусветнай вайны арганізавала дапамогу бежанцам. Акрамя гэтага сужэнцы клапаціліся пра моладзь з найбяднейшых раёнаў горада.

Луіджы і Марыя заставаліся вернымі хрысціянскім поглядам ва ўсіх сферах свайго жыцця. Падчас апошняй цяжарнасці ўрачы дыягнаставалі Марыі няправільную прыкыхаднасць плода, што ставіла перад выбарам: аборт або смерць маці. Пасля доўгіх малітваў і размоў Бельтрамэ-Кватрокі адважыліся пайсці на ахвяру дзеля нараджэння дзіцяці. Насуперак медыцынскім перасцярогам аб трагічных наступствах гэтага рашэння, жанчына захавала сваё жыццё і нарадзіла дачку. Пазней менавіта яна даглядала бацькоў да канца іх зямнога шляху.

У сям'і было яшчэ трое дзяцей – 2 хлопчыкі і дзяўчынка. Сужэнцы з вялікай адказнасцю ставіліся да бацькоўства, успрымаючы яго як дар і заданне. Яны чыталі спецыяльную літаратуру, каб лепш пазнаць патрэбы сваіх дзяцей; заўсёды знаходзілі час, каб разам пакатацца на веласіпедах або выбрацца ў горы. Асаблівую ўвагу надавалі фарміраванню маральных пачуццяў. Напрыклад, Луіджы пасля нараджэння першага дзіцяці кінуў паліць – не хацеў падаваць хлопцу благі прыклад.

Сужэнцы імкнуліся да таго, каб галоўнае месца ў жыцці іх дзяцей займала чысціня веры. Штотыдзень усёй сям'ёй прыступалі да споведзі, удзельнічалі ва ўрачыстай нядзельнай Імшы і разважалі ўрыўкі з Бібліі. Выхаваныя ў сталай блізкасці да Бога, 3-ое з дзяцей Бельтрамэ-Кватрокі абралі кансэкраванае жыццё.

Пражыўшы душа ў душу 20 гадоў, сужэнцы вырашылі скласці шлюб чысціні. Гэтае рашэнне было выразам іх імкнення цалкам аддаць сябе Госпаду і паглыбіць духоўныя зносіны паміж сабой. Марыя перажыла Луіджы амаль на 15 гадоў. Ім не трэба было чакаць Неба, каб поўнасцю аб'яднацца. Адзінства дасягнулі ўжо пры жыцці.

***Пане Езу, Ты заклікаў Луіджы і Марыю, сужэнцаў і бацькоў, да перажывання дзень за днём у сталай штодзённай вернасці, асвячаючай ласкі сакраманту сужэнства. Ты, які сваёй прысутнасцю асвячаеш дом у Назарэце, учыні, каб іх сведчанне і заступніцтва з дапамогай Панны Марыі паспрыялі ўмацаванню стойкасці сем'яў, насычэнню маладых сем'яў ласкай Тваёй прысутнасці, каб з удзячнасцю адкрыліся на Божы дар жыцця, каб сталі абвяшчальнікамі Евангелля сярод сем'яў і асоб, што знаходзяцца ў патрэбе. Учыні, каб хрысціянскія сем'і, пераймаючы іх прыклад, маглі жыць паўнатой свайго паклікання да святасці. Амэн.***

## Святыя Луі і Мары-Зэлі Мартэн. Піянеры кананізацыі



Да лёсавызначальнай сустрэчы абодва прагнулі прысвяціць сябе службе Богу, плануючы ўступіць у кляштар. Аднак Госпад паклікаў іх да іншага. "Я падрыхтаваў яго для цябе", – пачула ўнутраны голас Мары-Зэлі, калі ўпершыню спаткала Луі.

Яны ўзялі шлюб праз некалькі месяцаў пасля знаёмства. Запальчывая, эмацыянальная Мары-Зэлі і стрыманы, лагодны Луі цудоўна дапаўнялі адзін аднаго. Розніца характараў не перашкаджала ім весці поўнае згоды жыццё. Як адзначалі самі сужэнцы, іх "пачуцці заўсёды былі настроены на адзін лад". Яны знаходзілі ўзаемапаразуменне не толькі ў сямейных адносінах, але і ў прадпрымальніцкай дзейнасці. Луі трымаў прыбытковую ювелірную краму, а Мары-Зэлі была неперасўзыдзеным майстрам карункапляцення. Модны Парыж закідваў яе замовамі, і неўзабаве швейная справа пачала прыносіць сям'і большы даход, чым фірма Луі. Тады сужэнцы пачалі супрацоўнічаць: муж узяў на сябе вырашэнне ўсіх фінансавых пытанняў, а жонка працягвала з асалодай займацца любімым рамяством.

У хуткім часе сям'я Мартэн стала сапраўды заможнай. Аднак багацце не засланіла ім вочы на тое, што сапраўды важнае. Яны былі велікадушныя ў адносінах да бедных і шчодра падтрымлівалі Касцёл. Кожны дзень перад тым, як прыступіць да працоўных абавязкаў, сужэнцы прымалі ўдзел у Эўхарыстыі а 6-ай гадзіне раніцы.

Для Мартэнаў вера ў Хрыста была жыццёвым арыенцірам. Любоў да Бога яны ўзрошчвалі ў сваіх дзецях: самі рыхтавалі іх да першай споведзі і св. Камуніі, разам маліліся Ружанец. Выхаваныя ў веры, пяцёра дачок Луі і Мары-Зэлі адказалі на пакліканне да манаства. Сярод іх і 15-гадовая Тэрэза, сёння вядомая ўсяму свету як св. Тэрэза з Лізье.

Сужэнцы трывалі каля Госпада не толькі ў радасці, але і ў гаротнасцях. Чацвёра з іх 9-ці дзяцей адышлі на Неба яшчэ ў маленстве, але яны здолелі суцішыць боль свайго сэрца, спадзеючыся спаткацца з дзецьмі ў Божым Валадарстве. Будучы маладой жанчынай, Мары-Зэлі цяжка захварэла на рак грудзей. Яна праходзіла інтэнсіўнае лячэнне і малілася аб ацаленні ў паломніцтвах, мужна супрацьстаючы немачы на працягу 10-ці гадоў. Застаўшыся без любай жонкі, Луі ўзяў на сябе ўвесь цяжар выхавання дзяўчынак. Ён адышоў у вечнасць праз 17 гадоў пасля смерці жонкі, пакутуючы ад псіхічнага захворвання.

У 2015 годзе папа Францішак абвясціў сужэнцаў Мартэн святымі. З боку іх сямейнае жыццё можа падацца звычайным: зараблялі на існаванне, гадавалі дзяцей, змагаліся з хваробай... Аднак менавіта гэтая прастата дае надзею на тое, што кожная сям'я мае вялікі шанс не толькі дасягнуць, але і жыць у святасці.

***Божа, вечная Любоў, Ты даў у святых сужэнцах Луі і Мары-Зэлі Мартэн узор перажытай у шлюбе святасці: яны захавалі веру і надзею, выконваючы свае абавязкі і перажываючы цяжкасці штодзённага жыцця. Яны выхоўвалі сваіх дзяцей святымі. Няхай іх малітва і прыклад падтрымліваюць сем'і ў хрысціянскім жыцці, а ўсім нам дапамагаюць імкнуцца да святасці. Божа, удзялі нам ласкі, аб якіх Цябе просім праз іх заступніцтва, калі такая Твая воля. Просім Цябе аб гэтым праз Езуса Хрыста, нашага Пана. Амэн.***

*Ангеліна Марцішэўская*

## НАВІНЫ



# СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ХВОРЫХ

У сусветны дзень хворых, які адзначаецца ва ўспамін Маці Божай з Лурда, душпастыры, якія служаць ў бальніцах на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі, арганізавалі супольныя малітвы з пацыентамі, іх блізкімі і медыцынскім персаналам. У капліцах пры бальніцах былі адпраўлены св. Імшы, падчас якіх вернікам удзялілі сакрамант намашчэння хворых. У многіх касцёлах святары разам з вернікамі таксама маліліся за ўсіх пажылых, хворых і церпячых людзей. У некаторых парафіях быў замоўлены спецыяльны транспарт, каб хворыя маглі прыбыць на супольную малітву. Гэтае глыбокае рэлігійнае перажыванне павінна ўмацаваць, дадаць сіл і зрабіць магчымым захаванне хрысціянскай паставы ў час цярпення.

Традыцыйна на гэты дзень папа Францішак скіраваў пасланне, у якім звярнуў увагу, што жыццё чалавека з'яўляецца дарам, атрыманым ад Бога. Святы Айцец адзначыў, што яно не можа лічыцца прыватнай уласнасцю, асабліва перад абліччам дасягненняў медыцыны, якая магла б давесці чалавека да спакусы маніпуліравання жыццём. Біскуп Рыма падкрэсліў, што ніхто з людзей не здольны вызваліцца ад неабходнасці дапамагаць іншым. Адсюль абавязковасць пакоры, успрыняцця іншых як братоў, здольнасці практыкаваць салідарнасць, што грунтуецца на супольнай карысці. Узорам асобы, якая з'яўляецца адлюстраваннем самога Бога адносна ўбогіх і хворых, Папа назваў св. Маці Тэрэзу з Калькуты. "Яна дапамагае нам зразумець, – напісаў Святы Айцец, – што адзіным крытэрыем дзейнасці павінна быць любоў да ўсіх, незалежна ад мовы, культуры, этнічнай ці рэлігійнай групы. Яе прыклад надалей вядзе нас да пашырэння гарызонтаў радасці і надзеі для чалавецтва, якое патрабуе зразумення і чуласці; асабліва для тых, хто пакутуе".

Лейтматывам сёлетняга Сусветнага дня хворых сталі словы з Евангелля св. Мацвея – "Дарма атрымалі, дарма і давайце".

## КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У 8-мы раз у Баранавічах (Пінская дыяцэзія) адбыўся музычны фестываль "Дастукацца да нябёсаў". У мясцовым доме культуры сабралася некалькі сотняў маладых людзей з нашай краіны. Прысутнічала таксама шматлікая група моладзі з Гродзенскай дыяцэзіі, якая прыбыла туды разам з душпастырамі. На канцэртнай пляцоўцы выступілі гурты з розных куткоў Беларусі. У ліку ўдзельнікаў былі таксама гурты Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі "AVE" ды душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN" з Гродзенскай дыяцэзіі. Яны прадставілі свае музычныя творы, а таксама гімн XXXIV Сусветных дзён моладзі ў Панаме.

## ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі выступіла з ініцыятывай адкрыць у адным з апусцелых дамоў у Гродне пансіянат для састарэлых. У мінулым годзе арганізацыя пачала перамовы з адміністрацыяй горада і інвестарамі. Аднак апошняе слова застаецца за кіраўніком дзяржавы, паколькі гаворка ідзе пра перадачу будынка бясплатна. Праект ДКТ "Карытас" накіраваны на павышэнне ўзроўню сацыяльнай апекі ў гродзенскім рэгіёне. Падобных ініцыятыў у Беларусі яшчэ не было.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Музычны гурт "Боска-бэнд" з Мінска выступіў з канцэртам у Дзятлаве. • Біскуп Аляксандр Кашкевіч блаславіў будову літоўскага консульства ў Гродне. • Дэлегацыя з парафіі Гудагай прыняла ўдзел у пахаванні свайго земляка кс. Казіміра Акушкі, які служыў у парафіі Плюсы (Віцебская дыяцэзія) і спачыў пры той святыні.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**28 лютага 1947 г.** – кс. Юзаф Плева, *проб. Астрына;*
**28 лютага 1996 г.** – а. Генрых Навакоўскі OFMConv., *проб. Жодзішкі;*
**1 сакавіка 2000 г.** – кс. прэлат Юзаф Грасэвіч, *проб. Каменка;*
**10 сакавіка 1932 г.** – кс. Вінцэнт Сідорскі, *проб. Дуды;*
**10 сакавіка 1943 г.** – кс. Аляксандр Аўгустыновіч, *проб. Нецеч;*
кс. Альфонс Бароўскі, *проб. Лядск;*
кс. Францішак Цыбульскі, *проб. Трабы;*
кс. Стэфан Дабравольскі, *проб. Беліца;*
кс. Вінцэнт Лабан, *проб. Ліда;*
кс. Люцыян Мрачкоўскі, *вік. Ліда;*
кс. Юрый Ажароўскі, *проб. Ліпнішкі;*
кс. Стэфан Снягоцкі, *вік. Ліда.*

## АНОНСЫ

### СУСТРЭЧА З УДЗЕЛЬНІКАМІ СУСВЕТНЫХ ДЗЁН МОЛАДЗІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства пройдзе 2 сакавіка ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) і распачнецца св. Імшой у 19.00.**

Затым адбудзецца сустрэча з моладдзю, якая прымала ўдзел у сусветным форуме ў Панаме. Маладыя людзі падзеляцца сваімі ўражаннямі і распавядуць пра СДМ.

*На сустрэчу запрашаецца моладзь з усіх парафій горада Гродна.*

### КАНФЕРЭНЦЫЯ НА ТЭМУ АНТЫСЕМІТЫЗМУ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**У ёй прымуць удзел усе хрысціянскія Цэрквы горада і вобласці.**

Канферэнцыя адбудзецца 2 сакавіка ў царкве Евангельскіх Хрысціян Баптыстаў "Надзея" ў Гродне па вул. Шчорса, 1 (недалёка ад аўтавакзала). Пачатак у 10.00, планаванае заканчэнне ў 16.00.

У межах канферэнцыі адбудзецца малітва. Святы Айцец Францішак шматразова нагадваў, што хрысціянін не можа быць антысемітам. ***"Нашы карані супольныя. Таму гэта было б супярэчнасцю паміж верай і жыццём. Наадварот, мы запрошаны да супольнай працы над тым, каб выгнаць антысемітызм з чалавечага грамадства",*** – падкрэсліваў Папа.

### РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У БАРАНАВІЧАХ

**Арганізатары запрашаюць да ўдзелу ўсіх, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.**

Рэкалекцыі адбудуцца 15–17 сакавіка ў доме айцоў вербістаў па вул. Шаўчэнкі, 6.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 033) 325-57-64 – Юрый Гапонік.*

### ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ Ў ПОЛЬШЧУ

Першае паломніцтва, арганізаванае парафіяй св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, запланавана на 16–19 мая. Пілігрымы наведаюць Каліш, Вроцлаў, Чанстахову; прымуць удзел у св. Імшы ў санктуарыі св. Юзафа і ў капліцы цудатворнага абраза Маці Божай Яснагорскай.

Наступнае паломніцтва адбудзецца 22–25 жніўня і будзе прысвечана наведванню месцаў, асабліва звязаных са служэннем і жыццём кард. Караля Вайтылы, пазней папы Яна Паўла II. Пілігрымы наведаюць Кракаў, Кальварыю Зэбжыдоўску, Закапанэ і Вадавіцы.

*Атрымаць больш падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефонах: (8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ Ў КАРМЭЛІЦКІМ ДУХУ АДБУДУЦЦА Ў МЯДЗЕЛІ

**Кармэліты босыя запрашаюць на час духоўнага аднаўлення ў духу св. Тэрэзы ад Езуса (Авільскай), св. Яна ад Крыжа, св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус і іншых святых кармэліцкага ордэна.**

План рэкалекцый на 2019 год:
7–9 чэрвеня – "Спецыфіка кармэліцкай малітвы", праводзіць а. Андрэй Авен OCD;
23–25 жніўня – "Умовы добрай малітвы", праводзіць а. Юрый Находка OCD;
23–27 верасня – рэкалекцыі для святароў;
13–15 снежня – "У садзе св. Тэрэзы ад Езуса – шлях духоўнага жыцця", праводзіць а. Сяргей Трысцень OCD.

*Рэкалекцыі пройдуць у манаскім доме айцоў кармэлітаў у Мядзелі.*

*Па пытаннях запісу звяртацца па тэлефонах: (8 0179) 72-29-00, (8 029) 557-69-12 – а. Генрых Валэйка OCD; або праз электронную пошту: karmelmiadziel@gmail.com.*

## Каляндар падзей

***28 лютага***
*Тлусты чацвер.*

***4 сакавіка***
*Свята св. каралевіча Казіміра, заступніка дыяцэзіі.*

***6 сакавіка***
*Пачатак Вялікага посту. Папяльцовая серада. Абавязвае сціслы пост.*

***8 сакавіка***
*Міжнародны жаночы дзень. Молімся ў інтэнцыі ўсіх дзяўчат і жанчын.*

***10 сакавіка***
*Першая нядзеля Вялікага посту. У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў набажэнствах Песняў жальбы і Крыжовага шляху.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Сакавік***

*Аб духу пакоры і дары навяртання для людзей, залежных ад розных дрэнных звычак, а таксама аб духоўным аднаўленні для абыякавых хрысціян. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Дзіцячы куточак

# Святы каралевіч Казімір

**_Прывітанне, Маленькі Чытач! У гэтым нумары прапаную Табе пазнаёміцца яшчэ з адным святым – каралевічам Казімірам. Напэўна, ты можаш спытацца, як каралевіч змог стаць святым? Мы прызвычаіліся, што нябесназ хвалы дасягаюць прастакі, якія аддаюць сваё жыццё на службу Богу і людзям. Але гэта сапраўды магчыма! Негледзячы на тое, што жыццё св. Казіміра было вельмі складаным, што ён мусіў прымаць мноства розных рашэнняў, абраў для сябе шлях святасці праз самакатаванне і пост. Кім жа быў гэты надзвычайны святы? Вось, што я даведалася пра яго з кнігі "Давяраючы Хрысту. Жыццяпіс некаторых святых"._**

*Святы каралевіч Казімір нарадзіўся ў Кракаве 5 кастрычніка 1458 года і быў 2-ім сынам Казіміра Ягелончыка – Караля Польшчы і Вялікага Князя Літоўскага – ды Альжбеты з Габсбургаў – дачкі караля нямецкага і вянгерскага Альбрэхта II.*

*Казімір вылучаўся выдатнымі здольнасцямі, а асабліва набожнасцю і стараннасцю. Пагарджаў уласным каралеўскім паходжаннем, магчымасцю панаваць і жыць у сваё задавальненне. Лічыў сябе звычайным чалавекам, схільным да ўсіх людскіх слабасцей. Каралевіч ахвотна знаходзіўся сярод бедных, шчодра раздаючы міласціну. Часта таксама заступаўся за бедакоў перад бацькам. Вёў багатае ўнутранае жыццё. Цягнуўся да людзей мудрых і богабаязных. Яго часцей можна было знайсці на малітве ў касцёле, чым у палацы. Вельмі шанаваў Найсвяцейшую Панну Марыю, якую называў "дарагая Маці".*

*Каб не паддацца спакусам, якіх было шмат пры каралеўскім двары, малады каралевіч прынёс пажыццёвае абяцанне захоўваць цноту чысціні і прыкладаў усе намаганні, каб стрымаць яго.*

*Калі самы старэйшы з братоў Казіміра, Уладзіслаў, узышоў на чэшскі трон, ён застаўся адзіным наследнікам каралеўскага пасаду. З гэтага часу як будучы манарх суправаджаў бацьку ў паездках па краіне. І нават на працягу некалькіх гадоў кіраваў Каронай, калі кароль вымушаны быў знаходзіцца ў Літве. Тым, хто спрабаваў заваяваць яго сімпатыю лісліўымі хваламі, выказваючы надзею, што хутка ён стане каралём, Казімір адказваў: "Дай Божа, каб спадар і дабрадзей мой бацька, якога мне Пан Бог мой наказаў шанаваць, ніколі, калі магчыма, не паміраў і шчасліва панаваў. Хай я раней памру, каб не чакаў смерці майго бацькі. Гэтага каралеўства не жадаю і не імкнуся да яго, бо для іншага валадарства стварыў мяне Пан Бог – таго, якое нам Хрыстос цярпеннем сваім падрыхтаваў".*

*Тым часам туберкулёз і суровы лад жыцця падрывалі маладыя сілы каралевіча. Па жаданні бацькі ён на некаторы час пераехаў у Вільню, дзе, як лічылася, клімат быў лепшым. У той жа час урачы пачалі раіць яму адмовіцца ад шлюбу чысціні і падумаць пра жаніцьбу, мяркуючы, што такім чынам удасца палепшыць яго здароўе. Аднак Казімір з абурэннем адкінуў такую параду, сказаўшы: "Ніколі я не здзейсню такога, каб дзеля здароўя ў зямным жыцці гнявіць Пана Бога, пераступаць Яго запаведзь і губляць Яго ласку".*

*У хуткім часе здароўе каралевіча значна пагоршылася. Адышоў у вечнасць у нядзелю 4 сакавіка 1484 года, прыціскаючы да сэрца распяцце і давяраючы сябе Найсвяцейшай Панне Марыі. Цела памерлага было перавезена ў Вільню і пахавана ў катэдральным касцёле свсв. Станіслава і Уладзіслава. У гэтай святыні сёння знаходзіцца капліца святога каралевіча з яго трунай і абразом "Трохрукі Казімір".*

*Маленькі Чытач! Яшчэ хацела б дадаць некалькі цікавостак, якія распавядаюць пра св. Казіміра. Пад княжацкім адзеннем ён насіў валасяніцу. Хоць меў мяккі пуховы ложак, спаў на падлозе. Адмаўляўся ад шыкоўных каралеўскіх страў, аддаючы перавагу посту. Здаралася, што нават ноччу прыходзіў у святыню, каб адараваць Найсвяцейшы Сакрамант, а калі знаходзіў дзверы храма зачыненымі, то маліўся, кленчачы на прыступках.*

**Заданне:** ***Падумай, да якіх матэрыяльных даброт Ты найбольш прывязаны, і пастарайся на працягу аднаго дня імі не карыстацца.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Шаноўнай Сястры Эўхарыі Гульбуй**
з нагоды Імянін жадаем здароўя, радасці, Божага бласлаўлення, а таксама рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай Вас заўсёды акружаюць промні Божай міласэрнасці, ласка Пана і апека Найсвяцейшай Маці.

*Сям'я Касцюшкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх ласкаў ад Езуса Хрыста, здароўя на доўгія гады, мноства радасных дзён, душэўнага супакою і цішыні ў сэрцы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік ахінаюць Вас сваёй апекай, а Анёл-ахоўнік заўсёды аберагае ад зла.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Адамавічаў і Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**
з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом шлях, які Вы выбралі, добры Бог адорвае сваімі ласкамі, а Панна Марыя мае ў сваёй апецы. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Парэчча*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Каноніку Віктару Мыслюку**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божым бласлаўленнем і напоўнены Яго ласкамі. Святы Дух няхай нястомна спасылае свае дары, Маці Божая ахінае любоўю, а святы Заступнік стала апекуецца. Будзьце мужным, цярплівым, добрым і заўсёды давярайце Пану.

*Верныя парафіяне з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку**
з нагоды Імянін і Дня нараджэння жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень, доўгіх гадоў жыцця, здароўя, стойкасці ў святарскай працы, шчодрых дароў ад Хрыста, нязгаснага запалу да абвяшчэння Божага слова, няспыннай апекі Панны Марыі, душэўнага супакою, людской зычлівасці, радасці і надзеі.

*Верныя парафіяне з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Гардзейчыку**
з нагоды Дня нараджэння жадаем радасці, моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай Панна Марыя ахінае Вас любоўю і апекай, а таксама выпрошвае ў свайго Сына неабходныя ласкі. Дзякуем за прыгожы прыклад веры, ахвярную працу і зычлівасць.

*Вернікі з парафіі Нараджэння НПМ у Кемелішках*

**Паважанай Сястры Аляксандры Сташкевіч**
з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом і нястомна апекуецца.

*Легіён Марыі і малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Фядотаву**
з нагоды Дня нараджэння дасылаем самыя шчырыя пажаданні. Няхай Ваш шлях заўсёды асвячае Найсвяцейшая Маці, добры Езус трымае Вас ля свайго сэрца і адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі, а Святы Дух будзе бясконца шчодры на свае дары. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою і радасці. Мы ўдзячны Богу за Ваша добрае сэрца і малітву.

*Легіён Марыі і малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Сініцкаму**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, нязгаснай любові і веры, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Бог бласлаўляе Вас і ўзнагароджвае за нястомную працу і малітву.

*Легіён Марыі і малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа, шмат сіл, цярплівасці, радасці і аптымізму на кожны дзень.

*Сям'я Бондзюш, в. Монькаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко**
з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем дабра, радасці, здароўя, верных сяброў і адкрытых душой ды сэрцам людзей навокал. Няхай Вашы гады будуць толькі прычынай для радасці, усё, аб чым шкадуеце, няхай забудзецца, а ўсё, аб чым марыце – здзейсніцца. Будзьце верным сведкам Хрыста і ніколі не адступайце перад жыццёвымі перашкодамі. Няхай агеньчык Святога Духа дапамагае Вам з малітвай крочыць па дарозе святарства.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка. Жадаем таксама моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай кожны дзень жыцця будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці.

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, поспехаў, стойкасці на святарскім шляху, радасці і добразычлівых людзей побач, Божага бласлаўлення на кожны дзень, шчодрых дароў Святога Духа і няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці Божай. Няхай святы Заступнік абараняе Вас ад усіх бед і няўдач.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гнезна*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, душэўнага супакою, радасці і аптымізму, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святы Заступнік старанна Вамі апекуецца, а міласэрны Бог адорвае шчодрымі ласкамі.

*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, сіл і стойкасці ў працы, людской добразычлівасці, апекі Божай і святога Заступніка. Няхай Пан адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі.

*Былыя парафіяне з в. Навіянка*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку**
з нагоды Імянін і Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божай дабрыні, радасці ў сэрцы ад кожнай хвіліны душпастырскага служэння, моцнай і сталай веры. Хай Маці Божая акружае Вас сваёй любоўю і спадарожнічае на шляху да Хрыста, а святы Заступнік апекуецца кожны дзень.

*Ружанцовае Кола МБ Нястомнай Дапамогі з Воўпы*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў святарскай паслузе, зычлівых людзей побач і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай міласэрны Езус адорвае Вас супакоем ды бласлаўляе на далейшыя гады, а Маці Божая вядзе найлепшай дарогай да святасці. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, усмешку і добрае сэрца.

*Тэрэза, Алена, Аліна з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: апекі Найсвяцейшай Маці, усіх ласкаў ад Пана, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Ваша душпастырская паслуга будзе напоўнена радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.

*Ружанцовае кола св. Юзафа з парафіі Воўпа*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат здароўя, цярплівасці, радасці і добрых людзей побач.

*Вернікі з в. Асташа*

**Паважаны Айцец Раман Цесляк!**
Дзякуючы Богу за дар Вашага жыцця і прысутнасці сярод нас, з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, радасці ад выканання душпастырскай паслугі і сілы для рэалізацыі кожнага намеру. Молімся, каб Пан нястомна адорваў Вас бласлаўленнем і супакоем, каб Вы як мага плённей служылі будаванню Божага Валадарства на зямлі і вялі нас дарогай святасці.

*Парафіяне з Парэчча*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Грэмзу, Андрэю Каўшуку і Юрыю Ясевічу**
з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем шмат радасці, душэўнага супакою, сіл і цярплівасці ў штодзённай паслузе. Няхай Пан Бог бласлаўляе, Маці Божая ахоўвае і дапамагае, а Святы Дух дадае сіл і стойкасці на выбраным шляху.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 930 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная